# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 51 (669) ГОД XIII 22 СНЕЖНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.


З метадычнай канферэнцыі настаўнікаў

# У ГАРАДКУ ПРА ПАТРЫЯТЫЗМ

Настаўнікі беларускай мовы з Беластоцкага павета сабраліся на сваю чарговую метадычную канферэнцыю. У канферэнцыі прымалі ўдзел 22 настаўнікі беларускай мовы. Гасцьмі канферэнцыі былі падінспектар школьны Аддзела асветы ў Беластоку **С. Крэнтоўскі,** сакратар ГП БГКТ **Ул. Юзвюк** і кіраўнік пачатковай школы ў Гарадку **Я. Бараноўскі.** Працай метадычнай канферэнцыі кіраваў нованазначаны кіраўнік беларускай мовы ў павятовым метадычным цэнтры С. Копа, настаўнік са школы ў Гарадку.

У асноўным канферэнцыя прадугледжвала ўрок беларускай мовы ў VIII класе, які вёў тав. **М. Лебядзінскі,** і даклад на тэму **«Аб патрыятычным выхаванні дзяцей і моладзі»,** падрыхтаваны С. Копам. Зразумела, многа месца адвялося на дыскусію аб праведзеным уроку і па дакладу. Паколькі кіраўнік бел. мовы Копа з'яўляецца настаўнікам-спецыялістам спеваў, ён развучыў з прысутнымі адну з сучасных беларускіх песень «Бацькоўскі парог».

Аб праведзеным уроку («Камсамольскі білет») настаўнікам М. Лебядзінскім напішам асобную справаздачу, таму што праведзены ён быў з метадычнага боку па-майстэрску і можа паслужыць як прыклад для малодшых настаўнікаў.

Некалькі слоў аб падрыхтаваным дакладзе і дыскусіі.

Даклад С. Копы быў падрыхтаваны вельмі старанна. Фактычна гэта былі развінутыя тэзісы аб фармаванні ў вучняў патрыятызму, ілюстраваныя вытрымкі выказванняў вучоных, дзеячаў, педагогаў, паэтаў. Здавалася б, што тэма нібы вядомая настаўнікам, тэма, якую плануюць кожны год у планах урокаў розных прадметаў, выхаваўчых планах і т.п. Аднак з даклада кожны, хіба, вынёс уражанне, калі не штось больш, што фармаванне патрыятызму ў дзіцяці павінна пачынацца ад яго асяроддзя, школы, вёскі. Каб будучы грамадзянін мог быць добрым сацыялістычным патрыётам, мусіць палюбіць тое, што вакол яго: свой дом,

(Працяг на стар. 4)

# БГКТ

### КАЛЯНДАР НА 1969 ГОД

Цікава падрыхтаваны каляндар на 1969 год. А 1969 год адзначаецца дзвюма вялікімі гадавінамі: 1 студзеня 1919 года была ўтворана Беларуская Сацыялістычная Рэспубліка. Аб 50-гадовым шляху Савецкай Беларусі, аб росце яе магутнасці, аб усебаковым развіцці гавораць у календары матэрыялы навукоўцаў з БССР.

Другая гадавіна — гэта 25-годдзе Народнай улады ў Польшчы. Гэтаму юбілею прысвечана шмат месца, а ў тым ліку пададзены і дасягненні некалькіх паветаў Беласточчыны.

У календары змешчаны матэрыялы V з'езда ПАРП.

У маі 1969 года адбудзецца чарговы VI з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства. «Насустрач з'езду» — так называецца публікацыя старшыні ГП БГКТ Вінцука Склубоўскага. Аб дзейнасці БГКТ на Беласточчыне таксама ёсць большы артыкул. Ёсць шмат матэрыялу для нашых школ, а перш за ўсё для настаўнікаў. Змяшчаюцца тут гутаркі па гісторыі Беларусі, аўтарам якіх з'яўляецца дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім Мікалай Гайдук.

У тых школах, дзе вывучаецца беларуская мова, адчуваецца недахоп беларускіх дзіцячых песень. Вось таму вырашана надрукаваць у календары пэўную колькасць песень. Песнямі гэтымі з'яўляюцца вершы Віктара Шведа, да якіх напісаў музыку Эдвард Гойлік.

Цікавымі публікацыямі календара з'яўляюцца старынныя песні, запісаныя ад вясковых жанчын, якія ў сваіх вёсках з'яўляюцца вядомымі выканаўцамі фальклору і без якіх мала калі адбываюцца сямейныя ўрачыстасці ў іх асяроддзі. Змешчаны здымкі гэтых жанчын і кароткія аб іх даведкі. Чытачы знойдуць у календары матэрыялы аб гайнаўскім беларускім ліцэі, аб людзях, аб сельскай гаспадарцы, аб розных цікаўнасцях, а таксама ёсць крыху гумару і сатыры.

Варта падкрэсліць, што календарыум календара на 1969 год будзе мець характар адрыўнога календара і таму можна будзе яго ўмацаваць на сцяне. У каляндарыуме ёсць парады аб чатырох збожжавых культурах, ветэрынарыйныя парады і аб жывёлагадоўлі. Змешчаны тут штодзённы ўзыход і захад сонца, а таксама змены ў фазах месяца.

Каляндар багата ілюструецца здымкамі, якіх налічваецца больш 150.

Каляндар будзе мець больш 400 старонак. Набыць яго можна будзе ў ГП БГКТ і ва ўсіх аддзелах таварыства.

### НОВАЯ ПРАГРАМА

Эстрада ГП БГКТ «Лявоніха», як многім вядома, карыстаецца вялікай папулярнасцю на Беласточчыне. Ад 1 снежня канцэртная праграма «Лявоніхі» значна змянілася. Уведзены чатыры беларускія народныя песні, некалькі новых танцаў і зменены некаторыя маналогі канферансье.

### АПРАЦАВАНЫ ДАКЛАД

З нагоды 50-ай гадавіны Камуністычнай партыі Польшчы (а таксама КПЗБ) ГП апрацавала змястоўны даклад для актыву, з якім яны павінны выступаць і зазнаёміць усіх членаў БГКТ. Даклад можна набыць у ГП і ва ўсіх аддзелах БГКТ. (мх)



**24 СНЕЖНЯ — 170 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВЯЛІКАГА ПОЛЬСКАГА ПАЭТА А. МІЦКЕВІЧА (1798—1855).**

Адам Міцкевіч цесна звязаны з беларускай культурай, з Беларуссю. Тут ён нарадзіўся ў вёсцы Завоссе, паблізу Навагрудка, тут правёў свае дзіцячыя гады, пачаў літаратурную дзейнасць, якая прынесла яму сусветную вядомасць. Паэт і грамадзянін, А. Міцкевіч у змрочныя часы рэакцыі мужна зваў народ да рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы. Уплыў паэзіі А. Міцкевіча на беларускую культуру плённы, але не менш плённай была для яго і сувязь з маляўнічай беларускай прыродай, яе людзьмі. У яго творах знайшло адлюстраванне жыццё Беларусі пачатку XIX стагоддзя. Адам Міцкевіч вывучаў беларускі фальклор, збіраў і апрацоўваў беларускія казкі, выкарыстоўваў іх у сваіх творах. Напрыклад, балады Міцкевіча «Курганок Марылі», «Люблю я!», «Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка» — створаны на беларускіх фальклорных вобразах і матывах. Вусная паэтычная творчасць беларускага народа — адзін з вытокаў творчасці А. Міцкевіча.

З паэзіяй Адама Міцкевіча звязана творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа. Дунін-Марцінкевіч першы пераклаў на беларускую мову некалькі песень з паэмы «Пан Тадэуш». Высокамастацкія пераклады твораў А. Міцкевіча зрабіў Я. Купала. Сучаснымі актыўнымі беларускімі перакладчыкамі А. Міцкевіча з'яўляюцца М. Аўрамчык, С. Дзяргай, Я. Семяжон і інш.

## БАЯВАЯ СПАДЧЫНА




Было лета 1932 года. У Брэсце сабраўся на выязной сесіі Акружны суд з Пінска. Мелі судзіць Івана Мазурука — жыхара вёскі Бобінка, у даўнейшым Брэсцкім павеце. Пракурорскія абвінавачванні гучэлі вельмі сур'ёзна і надта ж пагражалі: Іван Мазурук, — сцвярджаў пракурор, — член антыдзяржаўнага загавору пад назвай «Камуністычная партыя Заходняй Беларусі».

Так вось 20-цігадовы юнак Ваня Мазурук стаў перад судом як дзяржаўны злачынец.

Жыў ён разам з братам на бацькоўскай гаспадарцы. Бацькі ўжывых ужо не было. Брат Васіль, які ў рэвалюцыю і ў грамадзянскую вайну служыў у Чырвонай Арміі, прымаў актыўны ўдзел у падпольнай КПЗБ-оўскай рабоце. Ад яго вучыўся Янка. Пачалося яшчэ ў 1924 г.

— Было мне тады 12 год, — успамінае Мазурук. — Аднаго жнівеньскага дня, перад праваслаўным святам, пасвіў я коней ва ўрочышчы Луканіца. Коней прывялі таксама Андрэй Кухта і Ілья Вілюк. Яны былі шмат старэйшыя за мяне, ужо дарослыя. Паклікалі мяне да сябе. «Слухай, Ванька, — кажа Андрэй Кухта, — на «Успенне» з Амяльянца ў Вярсток будзе ісці працэсія. Трэба ноччу на гэтай дарозе раскінуць лістоўкі. Ты спрытны, малы яшчэ, ніхто нават нічога не дадумаецца». «Мы давяраем табе, — дадаў Ілья Вілюк, — і ты нас не падвядзі! Калі добра справішся, камсамольцам будзеш».

Гэта было яго першае заданне ў падпольнай дзейнасці. Таямнічае слова «камсамолец» падбадзёрвала і заахвочвала. Янка заданне выканаў удачна.

— Яшчэ сёння памятаю я гэтыя мае першыя лістоўкі, — гаворыць Мазурук. — На адных быў намаляваны моцна зацiснуты кулак і ад яго ва ўсе бакі расплываліся праменні. Пад кулаком віднеў лозунг: «Прэч з капіталістамі!» На іншых лістоўках адзін брухаты чалавек вялізнай нагой таптаў мноства абарваных, худых людзей. Тут лозунг заклікаў: «Прэч з эксплуатацыяй! Працы! Хлеба! Зямлі!»

Пасля гэтага экзамена сапраўды Ваня Мазурук стаў членам Камуністыч-

(Працяг на стар. 5.)

**Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі**

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

## З ПЛЕНУМА ЦК КПЧ

13 снежня г.г. закончыў працу чарговы пленум Цэнтральнага Камітэта Чэхаславацкай кампартыі. Пленум прыняў шмат пастаноў, якія намячаюць асноўныя напрамкі рэформы гаспадаркі, а таксама вызначыў галоўныя ўстаноўкі для новых дзяржаўных улад, як федэратыўных, так і нацыянальных (чэшскіх і славацкіх).

Пленум адобрыў таксама тэзісы даклада О. Чэрніка. Датычыць гэта ў асноўным тэзіса, у якім гаворыцца аб неабходнасці рацыянальнага развіцця эканомікі, абапіраючыся на планавую гаспадарчую палітыку дзяржавы. Гэта з'яўляецца выразным парваннем з т.зв. «вольнарынковай» канцэпцыяй О. Шыка.

Пленум выказаўся таксама за ўмацаваннем гаспадарчых суадносін з сацыялістычнымі краінамі, як у рамках Савета Эканамічнай Узаемадапамогі, так і двухбаковых.

## ВАЕННАЯ БАЗА ФРГ

На працягу найбліжэйшых трох год ваенныя выдаткі Бона складуць каля 63 мільярдаў марак. Будуць яны выкарыстаны на ўтрыманне павялічваных зараз заходнегерманскіх узброеных сіл, на прапанаваную міністрам Шрэдэрам праграму прыспяшэння ўзбраення, а таксама на разбудову замежных баз і палігонаў Бундэсвера.

Да найстарэйшых залічваецца база і падрыхтоўчы цэнтр Бундэсвера ў партугальскай мясцовасці Бея, якая знаходзіцца ў 150 км ад Лісабона над Атлантычным акіянам. У гэтай мясцовасці бонскі ўрад за 150 мільёнаў марак пабудаваў уласны авіяцыйны порт, склады, рамонтныя майстэрні, цэнтральныя тэлефонныя станцыі, а таксама санітарныя склады. Зараз у Беі жыве 15 тысяч ваенных і цывільных грамадзян ФРГ.

Бонскія базы знаходзяцца таксама ў ЗША і ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы. Найважнейшы палігон Бундэсвера, т. зв. «атлантычны», сфінансаваны ў асноўным ЗША і ФРГ, абсталяваны на востраве Крыт. Гэта ракетны палігон, а яго агульны кошт склаў 50 мільёнаў долараў. На ЗША і ФРГ прыпала на 17 мільёнаў долараў, астатняе заплацілі, хаця і без энтузіязму, меншыя «атлантыды».

## ПЕНТАГОН НЕ ДРЭМЛЕ

Амерыканская армія поўнасцю змабілізавана на выпадак якіх-небудзь выступленняў ці грамадзянскай вайны. Спецыяльны штаб, які складаецца са 180 людзей у Пентагоне, клапоціцца над утрыманнем публічнага парадку. У стане Джорджыя створаны спецыяльныя вучэбныя лагеры для афіцэраў і 160.000 салдат, якія ў кожны момант гатовыя інтэрвеніяваць на выпадак бунту, выступленняў ці хваляванняў.

А. К.

## ГУРЫНОВІЧА

**«У абарону міру і міжнароднай бяспекі»** — пад такім загалоўкам беларускі друк публікуе выступленне міністра замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіча ў Першым камітэце XXIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у агульнай дыскусіі па пытаннях раззбраення.

Міністр Гурыновіч, м. ін., сцвердзіў: «Прымаючы ўдзел у дзейнасці ААН са дня стварэння гэтай міжнароднай арганізацыі, дэлегацыі Беларускай ССР, выражаючы волю свайго народа, паслядоўна дабіваліся раззбраення і ажыццяўлення праграм ўсеагульнага і поўнага раззбраення, змагаліся супраць імперыялістычнай палітыкі агрэсіі і войнаў, абаранялі справу міру і міжнароднай бяспекі. Мы заўсёды зыходзілі з таго, што раззбраенне магчымае і неабходнае».

## ЮБІЛЕЙНЫ

Адбыўся юбілейны пленум Саюза кампазітараў Беларусі. Пазнаёмлена слухачоў з творамі беларускіх кампазітараў, напісанымі за 50 гадоў Савецкай улады. Ужо першыя канцэрты пленума паказалі, што беларуская музыка мае багатыя нацыянальныя здабыткі, развіваецца як мастацтва вялікіх ідэй і высокамастацкіх форм.

На канцэрце прысутнічалі намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Р. Кісялёў, міністр культуры БССР М. Мінковіч і іншыя асабістасці.

## БЕЛАРУСКІХ

У гарадах і вёсках Беларусі праводзіцца фестываль беларускіх кінафільмаў, прысвечаны 50-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі.

Дэманструюцца фільмы мінулых гадоў — «Чырвонае лісце», «Канстанцін Заслонаў», «Гадзіннік спыніўся апоўначы», «Шукальнікі шчасця», «Маё каханне», «Цераз могілкі», «Міколка-паравоз», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Першыя выпрабаванні», «Нашы суседзі», «Палеская легенда», «Пісьмы да жывых», «Расказы аб юнацтве», «Альпійская балада», «Я родам з дзяцінства», «Запомнім гэты дзень».

Цікавы новы фільм «Іван Макаравіч». Падзеям мінулай вайны прысвечана і новая беларуская шырокаэкранная кінастужка «Прыдатны да нестраявой». Дэманструецца таксама новая псіхалагічная кінадрама «І ніхто іншы».

Шмат цікавага расказваюць гледачам беларускія хранікальна-дакументальныя і навукова-папулярныя фільмы.

## САМАДЗЕЙНАСЦІ

Каля 600 калектываў Мінска прынялі ўдзел у агульнагарадскім аглядзе мастацкай самадзейнасці, прысвечаным 50-годдзю Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі.

## МЕТЭАРЫТАЎ

Частыя знаходкі метэарытаў у паўднёва-ўсходняй Беларусі дазволілі вучоным сцвердзіць, што больш паўтара стагоддзя таму над гэтай часткай Беларусі ўзарвалася велізарнае метэарытнае цела.

(С.Я.)

## СЯРОД РАБОЧАЙ МОЛАДЗІ

10 снежня адбылося ў Свентахлавіцах на Шлёнску выязное Пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Саюза сацыялістычнай моладзі, прысвечанае апрацаванню праграмы дзеяння гэтай арганізацыі ў асяроддзі рабочай моладзі. З дакладам выступіў сакратар Галоўнага праўлення ЗМС Ян Май. У дакладзе і дыскусіі ўказвалася на неабходнасць набліжэння дзейнасці гэтай арганізацыі да прадпрыемстваў, у якіх працуюць маладыя рабочыя, якія складаюць найбольш заангажаваны і ідэйны элемент арганізацыі. За адно з асноўных выхаваўчых заданняў Саюза Пленум прызнаў падрыхтоўку найлепшых членаў ЗМС да ўступлення ў рады партыі.

## 50-ГОДДЗЕ

Адным з галоўных момантаў у святкаваннях 50-ай гадавіны нараджэння камуністычнага руху ў Польшчы сталася агульнапольская навуковая сесія, якую 12 снежня арганізавалі ў Варшаве Цэнтральная партыйная школа і Інстытут гісторыі партыі ЦК ПАРП пры актыўнай дапамозе іншых навуковых цэнтраў. На сесію з'ехалася шмат гісторыкаў з усяе Польшчы. Прынялі таксама ўдзел прадстаўнікі Інстытута славяназнаўства Акадэміі навук СССР і прадстаўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларускай ССР Анатоль Грыцкевіч. Пасяджэнне адкрыў дырэктар Цэнтральнай партыйнай школы Уладзіслаў Застаўны, які падкрэсліў, што асноўнымі датамі ў развіцці польскага камуністычнага руху з'яўляюцца 1918, 1948, 1968 гады.

## ВЫХАВАННЕ

У варшаўскім Палацы Сташыца адбылася нарада вучоных — педагогаў, гісторыкаў, сацыёлагаў, філосафаў, а таксама настаўнікаў і асветных дзеячаў, прысвечаная сацыялістычнаму выхаванню моладзі. Нарада заініцыявала крытычны аналіз існуючага стану выхаваўчай тэорыі і практыкі і паказала перспектывы найбольш пільных заданняў, звязаных з ідэйна-патрыятычным выхаваннем маладога пакалення.

## АБ УСХОДНЯЙ ПАЛІТЫЦЫ ГЕРМАНІІ

11 снежня адбылася ў Аполі навуковая канферэнцыя, прысвечаная аналізу ўсходняй палітыкі Германіі. Прынялі ў ёй удзел вучоныя з усяе Польшчы, а таксама з Чэхаславакіі. На канферэнцыі былі прадыскутаваны даклады «Адносіны германцаў да славянскіх суседзяў», «Усходняя палітыка Германіі ў міжваенны перыяд», «Усходняя палітыка ФРГ (1949—1968)».

## ЛАСУНКІ

Прадбачваецца, што ў IV чвэрці гэтага года пастаўка на рынак ласункаў будзе на 5 тысяч тон вышэйшай, чымсьці ў мінулым годзе. Між іншым у крамы даставіцца каля 22 тысяч тон розных цукеркаў, 11,5 тысяч тон шакалада і 13 тон цукраванага цеста.

(п)

## ПРА РАБОЧЫ РУХ

Ваяводскі камітэт ПАРП у Беластоку наладзіў 14 снежня 1968 г. навуковую сесію, прысвечаную 50-й гадавіне заснавання Камуністычнай партыі Польшчы і 20-й гадавіне аб'яднання польскага рабочага руху і ўтварэння Польскай аб'яднанай рабочай партыі. У канферэнцыі прынялі ўдзел заслужаныя дзеячы польскага рабочага руху, члены КПП і цяперашнія кіраўнікі палітычнага і гаспадарчага жыцця Беласточчыны на чале з тав. А. Лашэвічам. Многія сярод іх за ахвярнае змаганне з буржуазіяй былі ўзнагароджаны высокімі дзяржаўнымі адзнакамі і ордэнамі.

Удзельнікі сесіі выслухалі наступныя даклады: дац. доктара Уладзіслава Гуры, які гаварыў аб змаганнях за аб'яднанне польскага рабочага руху; мгр Юзэфа Кавальчыка — аб узнікненні і дзейнасці КПП у Ломжынскай акрузе, мгр Барыса Нікіцюка — аб дзейнасці КПЗБ у Беластоцкім ваяводстве. Доктар Генрык Маецкі ахарактарызаваў імкненні членаў беластоцкіх партыйных ячэек Польскай рабочай партыі і Польскай сацыялістычнай партыі да аб'яднання сваёй дзейнасці. Мгр Юзэф Кая сваё выступленне прысвяціў развіццю і структуры рабочага класа на Беласточчыне. Мгр Яніна Слабінская расказала аб польскіх камуністах, якія прымалі актыўны ўдзел у заснаванні Часовага Рэвалюцыйнага Камітэта Польшчы і яго філіяльных арганізацый — мясцовых ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў, якія ўзніклі ў 1920 годзе. Быў гэта першы ў гісторыі Польшчы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад. Мгр Ежы Шумскі прыпомніў удзельнікам сесіі гісторыю славутага маршу курпяў на горад Кольна. Для папаўнення папярэдніх выступленняў мгр Марыя Семянюк расказала аб палітычных партыях і прафсаюзах, якія ў 1945—1949 гадах дзейнічалі на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, а мгр Мар'ян Яськовяк гаварыў пра два дваццацігоддзі — даваеннае і пасляваеннае — Ломжынскай зямлі.

## ПРАДСТАЎНІКІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Нядаўна Беластоцкае ваяводства наведала група дакладчыкаў з Гродна. Тав. Уладзімір Рэпкін, які з'яўляецца загадчыкам сельскагаспадарчага аддзела Гродзенскага Абкома КПБ, сустрэўся з партыйным і гаспадарчым актывам у Беластоку і ў Бельску. Гаварыў ён аб дасягненнях хлебаробаў Гродзеншчыны. Тав. Таццяна Страшковіч, якая з'яўляецца навуковым супрацоўнікам Гродзенскага педінстытута, сустрэлася са студэнтамі беластоцкага філіялу Варшаўскага універсітэта і расказала ім аб культурным развіцці беларускага народа на працягу 50-гадовага перыяду існавання БССР. Тав. Грыгорый Кулага, які з'яўляецца навуковым супрацоўнікам Гродзенскага медінстытута, сустрэўся з моладдзю і актывам Гайнаўкі. Свой даклад прысвяціў ён 50-годдзю БССР і дзейнасці КПБ.

(вр)




**Niedziela, 22.XII.**

8.20 Program dnia. 8.25 TV Kurs Rolniczy: ,,Wprowadzanie wyników badań naukowych do produkcji w gospodarstwach indywidualnych''. 9.00 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.10 Dla młodych widzów: Film. 10.10 Dla młodych widzów: ,,Latający Holender w porcie macierzystym''. 10.50 PKF. 11.00 ,,Bez instrukcji'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 12.00 Dziennik. 12.10 ,,Bawcie się z nami'' — amatorskie zespoły przed kamerami. 12.50 IV Festiwal Filmów Starych (,,W starym kinie''). 13.50 ,,Blisko lasu'' — film (,,Polacy na frontach II Wojny Światowej''). 14.05 ,,Przemiany''. 14.35 Teatrzyk dla Przedszkolaków. A. Chodorowska: ,,Choinka Małgosi''. 15.20 ,,Biennale grafiki'' — rep. film. 15.50 ,,Wasza nowa koleżanka'' — rep. film. 16.05 ,,Miłość w przyrodzie'' — film węg. 17.30 ,,Klub sześciu kontynentów''. 18.10 ,,Tele-Varieté'' — ,,Na maskaradę'' — program VII. 19.00 Felieton TV. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Bracia Daltonowie'' — film fab. USA. 21.20 ,,Niedziela Sportowa''. 21.45 ,,Teatr Telewizji na świecie'': ,,Pieśń milczenia''. Tekst — F. O'Connor i H. Leonard. Widowisko BBC (W. Brytania).

**Poniedziałek, 23.XII.**

15.55 Program dnia. 16.00 ,,Teleferie'' 17.05 Dziennik. 17.15 ,,Mój wiatr'' — film radz. 17.30 ,,Śląsk przed świętami''. 18.00 ,,Kino Krótkich Filmów''. 18.30 ,,Eureka''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: T. Rittner — ,,Wilki w nocy''. 21.40 ,,Refleksje''. 22.10 Dziennik.

**Wtorek, 24.XII.**

9.00 ,,Teleferie''. 9.55 ,,Przygody Kopciuszka'' — film fab. wł. 10.55 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 ,,Teleferie''. 16.50 Dziennik. 17.00 ,,Dzieci Don Kichota'' — film fab. radz. 18.15 ,,Po szóstej'' — TV Klub Młodzieżowy. 19.00 ,,Choinka chłopczyka'' — film radz. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Hej kolęda deska'' czyli ,,Nowa pastorałka''. Scenariusz i reż. — E. Bonacka. 21.00 ,,Godzina pąsowej róży'' — film fab. pol. 22.20 Dziennik. 22.35 ,,Wieczór z Anną Moffo'' — filmowy program rozrywkowy.

**Środa, 25.XII.**

9.45 Program dnia. 9.50 ,,Tomcio Paluch'' — film fab. USA. 11.20 PKF. 11.30 TV Kurier Warszawski. 11.45 Dziennik. 12.00 ,,Szopka beskidzka'' — widowisko regionalne (Kraków). 12.30 ,,Sylwetki X Muzy'' — Mieczysława Cwiklińska. 13.00 Dla dzieci: M. Kubatova — ,,O bestii, która poszła do nieba'' — widowisko Państw. Teatru Lalek ,,Ateneum'' w Katowicach. 14.00 Dla dzieci: ,,Calineczka'' — film radz. 14.30 ,,Warszawa woła Meksyk'' — rep. film. 14.55 ,,Turniej Turniejów'' — rep. film. 15.50 ,,Calamity Jane'' — film (,,Bonanza''). 16.40 ,,Portrety'' — Władysław Hasior. 17.30 Recital Barbary Rylskiej. 18.00 ..Światowid''. 18.30 Estrada Literacka: ,,Korespondencja Chopina''. Reż. — A. Hanuszkiewicz. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Kłamstwo Krystyny'' — film fab. pol. (archiwalny). 21.35 ,,Małżeństwo doskonałe. Reż — J. Gruza. 22.50 ,,Siedem grzechów głównych'' — film fab. franc.

**Czwartek, 26.XII.**

10.10 Program dnia. 10.15 ,,Syn Robin Hooda'' — film fab. ang. 11.35 Kantata okolicznościowa z okazji 50-ej rocznicy Powstania Wielkopolskiego pod tytułem ,,Na chwałę Białego Orła'' (Poznań). 12.10 Dziennik. 12.25 ,,Paryż'' — rep. film. Tele-Aru (,,Z kamerą po świecie''). 12.45 Dla dzieci i dorosłych: A. de Saint Exupery — ,,Mały książę''. Reż. — J. Burski. 13.30 ,,Na śnieżnej drodze'' — rep. film. 13.45 ,,Architektura szopek'' (,,Piórkiem i węglem''). 14.15 ,,Zostanę maszynistą'' — teleturniej. 15.20 ,,Cyrkowy wóz''. 16.05 ,,Ludzie i zdarzenia''. 16.25 Teatr TV: A. Fredro — ,,Dożywocie''. Reż. — J. Woszczerowicz. 17.30 ,,Spotkanie z pisarzem'' — Ernest Bryll. 18.10 ,,Sopot 68'' — film TVP. 18.55 ,,Nie rzucim ziemi...'' — rep film. TV Poznań. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Hasło'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 21.05 Kabaret Kazimierza Krukowskiego — ,,A jak to było opowiem''. 22.15 ,,Gra Konstanty Kulka'' — film TVP. 22.40 Wiadomości sportowe.

**Piątek, 27.XII.**

9.00 ,,Teleferie''. 9.50 ,,Hasło'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 10.45 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 ,,Teleferie''. 17.10 Dziennik. 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.30 ,,Nie tylko dla pań''. 17.55 ,,Za kierownicą''. 18.25 ,,Czekając na turystę''. 18.55 ,,Definicje'' — teleturniej. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Program publ. 20.30 Teatr TV. J. P. Gawlik. ,,Pokusa''. Reż. K. Łastawiecki (Gdańsk). ok. 21.45 ,,10 minut recenzji''. 21.55 Dziennik.

**Sobota, 28.XII.**

9.00 ,,Teleferie''. 9.50 ,,Junga ze szkunera Kolumb'' — film fab. radz. 11.00 Przerwa. 15.20 Program dnia. 15.25 Program Tygodnia. 16.00 ,,Teleferie''. 17.40 Dziennik. 17.50 ,,W przestworzach, czyli ciekawe opowieści lotników''. 18.10 ,,Mieszkańcy morza'' — film (,,Encyklopedia morza''). 19.00 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Przepraszam, że zraszam'' — program rozrywkowy (Kraków). 20.40 ,,Tele-Echo''. 21.20 Dziennik. 21.35 Wiadomości Sportowe. 21.45 ,,Tajemnica portretu'' — film fab. ang. 23.05 ,,Wieczór z Fredem Astairem'' — filmowy program rozrywkowy.

 

# НЕКАЛЬКІ ЎВАГ АБ МОЎНЫХ ПРАБЛЕМАХ У ПЕРЫЯД ФІЛАМАЦКАГА РУХУ

Усім, хто хоць крыху цікавіўся гісторыяй Віленскага ўніверсітэта, вядома, як многа зрабіў ён у справе фармавання польскай нацыі. Тут, у мурах універсітэта, у асяроддзі філаматаў і філарэтаў, найбольш яскравым прадстаўніком якіх быў вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч, нарадзілася ідэя польскай нацыі як супольнасці розных этнічных груп і іх культуры.

Адам Міцкевіч быў адным з першых аўтараў у польскай літаратуры, якія пачалі пісаць аб Беларусі, абапіраючыся вельмі часта на беларускім фальклорным матэрыяле. Гаворачы аб вялікім паэце, неабходна ўспомніць і аб цэлай плеядзе яго сяброў — паплечнікаў, яго паслядоўнікаў, як Т. Зан, Я. Чачот, Э. Адынец і інш., творчасць якіх запачаткавала, як зазначыў пазней сам Міцкевіч, прабываючы ў Парыжы і чытаючы лекцыі аб славянскіх літаратурах, так званую літоўскую школу польскай літаратуры XIX стагоддзя (зразумела, назва «літоўская», як звычайна ў Міцкевіча і наогул у той час, ужывалася ў сэнсе гістарычным, а не этнаграфічным). Гэтыя аўтары не толькі пісалі аб Беларусі і карысталіся беларускімі фальклорнымі вобразамі, але з часам некаторыя з іх пачалі нават пісаць па-беларуску (асабліва Ян Чачот).

Былі гэта ў асноўным выразнікі ідэй прагрэсіўна настроенай польскай шляхты, і для гэтых ідэй шукалі яны падпоры ў народнай беларускай літаратуры і мове, якія былі для іх блізкія і зразумелыя. Большасць з іх жа паходзіла з тэрыторый, населеных пераважна беларусамі — Гродзенскай, Мінскай, часткова Віленскай губерань.

Немалаважную ролю для іх дзейнасці адыграў і той факт, што на чале Віленскай школьнай акругі ў той час стаяў куратар князь Адам Чартарыскі, чалавек высокай культуры і вялікіх ведаў.

Абшар, які падлягаў куратару, быў этнічна разнародны. «Można powiedzieć, że wprost esencjonalnie mieścił on w sobie ową właśnie różnorodność językową, i wogóle kulturalną, tak charakterystyczną dla terytorium zamieszkałego przez ludność polsko-litewsko-ruską, odrębną plemiennię, dialektycznie, religijnie, zmieszaną w splocie nierozerwalnym a przecież trudną do scalenia”. [1]

Невядома, ці куратар Адам Чартарыскі недастаткова ясна бачыў нацыянальныя праблемы ў сваёй акрузе, ці, магчыма, проста лічыў, што родная мова беларусаў ці літоўцаў, т .зн. мова, якой навучыліся яны ад маці, не была ворагам польскай мовы. У кожным разе ў яго карэспандэнцыі не было знойдзена доказаў нейкіх адмоўных адносін да гэтых моў.

Сваё куратарства князь Адам Чартарыскі пачынаў ва ўмовах, калі ўрадавы жаргон нёс з сабою мноства русізмаў і германізмаў, а французская мова даслоўна захлёствала вышэйшыя сферы польскай грамадскасці, якія надавалі тон культурнаму жыццю народа. У той час непрыстойным было адазвацца ў сталічным салоне на польскай мове, якая лічылася грубай, некультурнай мовай службы. Высокапастаўленыя дамы смяртэльна абражаліся, атрымаўшы ліст на польскай мове. А ўжо не давядзі бог, каб хто ўбачыў у яе спальні польскую кніжку! «Najuboższa szlachcianka, co pracą i oszczędnością uzbierała jaki tysiąc złotych, jeżeli ma córkę, już jej nie prowadzi w ślad za sobą, ale umieści u jakiej podguwernantki, aby choć trochę liznęła tej smacznej potrawy, francuszczyzną zwanej”. [2]

Французская мова ў польскім грамадстве стала, такім чынам, галоўным ворагам куратара А. Чартарыскага. Ён горача выступаў за зварот палякаў да роднай польскай мовы, адмоўна ставіўся да французскіх гувернёраў. Разумеючы ажыўляючую ролю французшчыны ў часы Станіслава Аўгуста, калі людзі, разбуджаныя на фоне краёвай цемнаты, кінуліся на першы свет, які бліснуў у адкрываючыхся вачах, князь Чартарыскі лічыў, што выкручванне ва ўсім на чужы ўзор, забыўшыся пра ўласныя сілы, заўсёды шкодзіла і шкодзіць народу.

Такія погляды тагачаснага школьнага апекуна Віленскай акругі (быў на гэтай пасадзе да 1824 г.) спрыялі, несумненна, таму, што ў асяроддзі філаматаў і філарэтаў не толькі не саромеліся размаўляць па-беларуску, але часта пры сустрэчах спявалі беларускія песні і нават складалі вершы і празаічныя творы на беларускай мове.

А было ж гэта прадвеснем новай беларускай літаратуры, якая, вырастаючы з народу, упітвала ў сябе жыццядайныя сокі старэйшых рускай, польскай і ўкраінскай літаратур.

**Ада Чэчуга**

[1] S. Pigoń „Księcia kuratora Adama Czartoryskiego troski o język i literaturę polską”. Wilno, 1931, s. 8.

[2] E. Felińska „Pamiętniki z życia”, Wilno, 1856, II, s. 294.

# СУСТРЭЧА З ДЭЛЕГАТАМІ НА V З'ЕЗД



**I сакратар КП Ю. Пяхоўскі ўручае кандыдацкі білет.**

Вялікую актыўнасць і палітычнае заангажаванне праяўляе моладзь, згуртаваная ў маладзёжных арганізацыях. Калі адбываўся V з'езд партыі, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ў рады Польскай аб'яднанай рабочай партыі ўступіла **400 членаў** маладзёжных арганізацый.

Нядаўна ў памяшканні Павятовага камітэта ПАРП у Бельску адбылася сустрэча школьнага маладзёжнага актыву, арганізацый ЗМС, ЗМВ і ЗГП з дэлегатамі на V з'езд партыі **Станіславам Крушнеўскім** — старшынёй Ваяводскага праўлення ЗМВ у Беластоку і **Эльжбетай Вжэцёнка** — намеснікам кіраўніка Аддзела сельскай гаспадаркі ў Бельску. На сустрэчу прыбылі таксама члены сакратарыята Павятовага камітэта на чале з **I сакратарам Юзэфам Пяхоўскім.**




**Дэлегаты на V з'езд, члены сакратарыята і кіраўнікі маладзёжных арганізацый за прэзідыяльным сталом.**

Актыўнасць моладзі **Бельскага павета** і яе цесная сувязь з партыяй, між іншым, праявілася ў тым, што ўзяла яна на сябе абавязацельствы на суму **800 тыс. зл.** У перадз'ездаўскі перыяд рады партыі запоўніла тут **160 членаў** ЗМС, ЗМВ і ЗГП. Толькі ў лістападзе г.г. маладзёжныя арганізацыі рэкамендавалі **77 сваіх найлепшых і найактыўнейшых членаў у кандыдаты ПАРП.**

Маладзёжны актыў у вельмі непасрэднай і свабоднай атмасферы пазнаёміўся з агульнай праблематыкай V з'езда, якую пераказаў I сакратар Ю. Пяхоўскі, а з маладзёжнымі праблемамі на V з'ездзе шырока пазнаёміў Ст. Крушнеўскі.

У час сустрэчы **30** маладых актывістаў атрымалі кандыдацкія білеты ПАРП.

А.К.

Фота аўтара



**Агульны від залы.**

## У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ




З Казімірам С. пазнаёміўся я на беластоцкім вяселлі. Было гэта адно з тых вяселляў, на якіх сустракаюцца розныя эпохі, розныя культуры, розныя светы. Малады — беластачанін з дзеда-прадзеда, паляк ды католік; маладая — з вёскі, праваслаўная ды беларуска. З'ехаліся госці. Ад яго — гарадскія, ды інтэлігенты з усяго свету, ад яе — сяляне з адлеглых вёсак. Прыехаў і наш знаёмы дзядзька Максім са Старой Вёскі.

Пачалося вяселле. Бразнулі талеркі, шчоўкнулі чаркі, пасыпалася гаманлівая, п'яная шчакатня: тосты, віншаванні, жарты і рогаты. Загутарылі людзі паміж сабою. Змяшаліся ў адно розныя праблемы: вырошчванне агуркоў, цана бульбы, касмічныя палёты, бюракратыя і якасць авечага мяса. Усё змяшалася ў адзін гаманлівы туман, густы ад крыку, папяроснага дыму і паху разлітай гарэлкі.

Гарадскія вяселлі манатонныя аднак і нуднаватыя. Збітая, густая атмасфера гоману, папяроснага дыму і гарэлкі трывае доўга, да самай раніцы. На гарадскіх вяселлях трэба разважліва падбіраць сабе суседзяў-субяседнікаў, з якімі будзе праведзена доўгая асенняя ноч.

Дзядзька Максім са Старой Вёскі ўсеўся побач з Казімірам С. з Бытомя. Дзядзька Максім — чалавек стары і, як на злосць, ні ў зуб не ўмее гаварыць па-польску. Казімір С. — чалавек бывалы, аб'ездзіў увесь свет і знае ўсё на свеце. Нарадзіўся ў сям'і беластоцкіх гараджан, тут вырас і выхаваўся. Пасля вайны выехаў на Шлёнск шукаць лепшай працы і дарогі да авансу. Там і астаўся па сённяшні дзень на нейкай інтэлігенцкай пасадзе.

Усю ноч прасядзеў Казімір С. з дзядзькам Максімам. Пілі гарэлку, стукаліся чаркамі, спявалі песні. Дзядзька Максім расказваў многа. Аб жыцці гаварыў, аб даўніх, старых часах ды аб сваіх прыгодах. Казімір С. слухаў, патакваў, спявалі разам песні вельмі старыя, яшчэ царскія і нейкія надволжскія «заўнылыя».

Раніцаю дзядзька Максім ад'ехаў у Старую Вёску. Пакарміць каня, падаіць карову трэба.

— Шкада, — сказаў Казамір С. калі сабраліся ўсе на нядзельную частку ўрачыстасці. — Шкада, што няма сёння дзядулі Максіма.

— А пан, — заўважыў нехта з прысутных, — умее неяк вельмі са старым і пагаварыць і паспяваць.

— Цікавы дзядуля, — сказаў Казімір С. — і выпіць, і паспяваць, і расказаць умее.

— Дзядуля вельмі ўжо дзіўны, — уключылася адна з Максімавых унучак. — Усё кругом адно і тое самае: расказвае пра цара і царскіх драгуноў.

— Дай божа, каб мы дажылі гэтага ўзросту і не былі дзіўнейшымі ад дзядулі, — заўважыў Казімір С.

Прысутныя з прызнаннем паківалі галовамі. Потым разлілі гарэлку і ўсё пайшло нармальна, як на вяселлі, і ніхто не ўспамінаў больш дзядзьку Максіма.

Казімір С. прабываў у Беластоку больш як тыдзень. Хадзіў адлеглымі вуліцамі, шукаў знаёмых завулкаў. Наведваў знаёмых ды сваякоў. І як заўсёды, калі шукаем адлеглых, адышоўшых часоў, свайго дзяцінства, Казімір С. не знайшоў нічога. Не знайшоў старых завулкаў з крывымі драўлянымі домікамі, дзе правадзіў сваё дзяцінства і юнацтва. Там стаяць шматпавярховыя гмахі.

Сустрэў я яго праз тыдзень.

— Перадайце прывітанні для дзядулі Максіма, — сказаў ён. — Цікавы дзядзька!

Цяпер зноў ён на Шлёнску ў люксуснай кватэры або на працы сярод калег ды знаёмых. Сярод звычайных штодзённых спраў і праблем. А калі здарыцца выпіць з калегамі чарку гарэлкі, пачынае спяваць старыя рускія песні ды расказваць пра Беласток.

**Рыгор Паўлюк**

# 3.354 зл

На апошнім бацькоўскім сходзе ў бельскім Беларускім ліцэі яго дырэктар мгр Мікалай Гайдук выступіў перад бацькамі з гутаркай аб вялікім значэнні захавання спадчыны беларускай народнай культуры і аб вынікаючай адсюль неабходнасці фінансавай падтрымкі знамянальнай ініцыятывы пабудовы Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Падобныя гутаркі з вучнямі мелі выхавацелі паасобных класаў.

Бацькі салідарна падтрымалі задуму настаўніцкага калектыву ліцэя. Добраахвотныя складчыны на пабудову музея склалі значную суму **3.354 зл. 50 гр.**

Клас II «а» — выхавацельніцы мгр Таісы Бялецкай-Калішэвіч — сабраў суму 1.040 зл.; клас I «в» — выхавацельніцы Людмілы Валасовіч — 600 зл.; клас II «б» — выхавацеля Рышарда Талвінскага — сабраў суму 565 зл.; клас I «а» — выхавацельніцы мгр Лідзіі Гайдук — сабраў суму 385 зл.; клас I «б» — выхавацельніцы Зінаіды Красоўскай — сабраў суму 325 зл.; клас XI «а» — выхавацельніцы мгр Гэнрыкі Малісак-Талвінскай — 239 зл. 50 гр. і клас XI «б» — выхавацельніцы Тэрэсы Пэлка — 200 зл. добраахвотных складчын.

Асаблівае зразуменне справы праявілі бацькі вучняў класа II «а», дзе многія з іх ахвяравалі па 50 зл. добраахвотных грашовых складчын. Гэта Пятро Іванюк, Рыгор Троц, Васіль Сасна, Уладзімір Сасна, Іван Ваўрынюк, Мікалай Далько, Вольга Ляшэўская, Люба Максімюк, Іван Ваўрэнюк і Васіль Якімюк (клас II «б»).

Патрэбна зазначыць, што кожны бацька, па меры сваіх магчымасцей, унёс сваю грашовую складчыну. Гэта вельмі прыемнае сцвярджэнне, якое сведчыць аб сардэчным і ўсеагульным зразуменні справы пабудовы новага будынка для Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы.

(С.Я.)



 

 

# Беларусіяна

## „NOWE KSIĄŻKI" ПРА І. ШАМЯКІНА

У двутыднёвіку (№ 21) «Nowe książki» паявілася цікавая рэцэнзія Флерыяна Няўважнага аб нававыдадзенай у перакладзе на польскую мову кніжцы Івана Шамякіна «Сэрца на далоні». Кніжка выйшла ў выдавецтве «Książka i Wiedza» ў 1968 годзе тыражом у 5200 экз. Старонак 538, цана 35 зл.

У рэцэнзіі на ўспомненую кніжку Ф. Няўважны (дарэчы, адзін з выдатнейшых знаўцаў літаратуры народаў СССР) піша, што новая кніжка Івана Шамякіна змяшчаецца ў нурце палітычнай і маральнай адновы жыцця ў СССР, што беларуская літаратура перажывае перыяд ажыўлення. Называе прадстаўнікоў гэтага напрамку і гэтага ажыўлення: Максіма Танка, Янку Брыля, Васіля Быкава, ці з малодшых — Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Караткевіча.

Ф. Няўважны шырока рысуе творчую постаць Івана Шамякіна, які належыць да пісьменніцкай вярхушкі ў беларускай літаратуры.

Тэма «Сэрца на далоні» — гэта перажытае мінулае партызана, якое сплятаецца з сучаснасцю. «Nowe Książki» змяшчаюць здымак аўтара «Сэрца на далоні» — Івана Шамякіна. (вл)

## СПЯВАЕ МІХАСЬ ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ

**(Навейшая інфармацыя з Прагі)**

Пра поспехі нашага земляка даведваемся з карэспандэнцыі з Прагі Чэшскай. Міхась Забэйда-Суміцкі пастановай праўлення Чэшскага музычнага фонду (Cesky hudebni fond) атрымаў узнагароду за сістэматычнае і дасканалае выкананне песень сучасных чэшскіх кампазітараў у канцэртным сезоне 1967/68.

Другая навіна ад М. Забэйды-Суміцкага з Прагі: канчаецца падрыхтоўка да выхаду ў свет яго новай доўгаіграючай грампласцінкі з 17-цю песнямі — рамансамі беларускіх кампазітараў.

У пражскім часопісе «Hudebni nowinki» (Музычныя навінкі) сам спявак апублікаваў артыкул з гэтай нагоды аб беларускіх песнях. Калі пласцінка будзе ў продажу, паведамім зацікаўленых.

Яшчэ раз прыпамінаем усім: Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы выдала грампласцінку М. Забэйды-Суміцкага з найпрыгажэйшымі беларускімі песнямі. Спеваку акампаніруе слаўны аркестр Эдуарда Цюкшы. Цана грампласцінкі 50 зл. Купіць можна ў ГП у Беластоку і ва ўсіх аддзелах таварыства ў паветах.

(вл)

## ПКО — добры гаспадар і выхавацель

ПКО як добры гаспадар, разумее, што трэба глядзець таксама і ў будучыню, а мо ў будучыню перш за ўсё. Таму, напрыклад, адзін з найлепшых павятовых аддзелаў ПКО, менавіта, Бельскі звяртае вялікую ўвагу на развіццё звычак ашчаднасці сярод моладзі. На тэрыторыі гэтага павета знаходзіцца найлепшая ў ваяводстве школьная ашчадная каса (СКО) ў Дзяніскаx, у якой налічваецца ў сярэднім каля трыццаці тысяч злотых. Апекуном касы з'яўляецца вядомы настаўнік і грамадскі дзеяч Уладзімір Антанюк.

Пры нагодзе варта ўпамянуць і пра іншыя школьныя касы, якія вылучваюцца сваёй гаспадарлівасцю, уносяць добры ўклад у належнае выхоўванне маладога пакалення. Да такіх належыць СКО ў вёсцы Аўгустова, дзе добры апякунскі нагляд праводзіць настаўнік Яўген Аніська. Сярод іншых варта адзначыць касы ў Катлах і Цялушках.

Бельскі аддзел ПКО абслугоўвае таксама і Сямяціцкі павет. У беларускім асяроддзі на тэрыторыі таго павета лепшыя СКО існуюць пры школах у Мельніку, дзе на 206 вучняў 149 належыць да ашчаднай касы, і ў Бацiках Сярэдніх, дзе на 139 вучняў аж 137 належыць да ашчаднай касы.

У ліку СКО ў гарадскіх пачатковых школах, вядома, найлепшай з'яўляецца ашчадная каса ў бельскай школе № 3. Гэта выдатная школа, якая займае вядучае месца ў дыдактычнай і выхаваўчай дзейнасці наогул. Апекунамі касы з'яўляюцца настаўніцы Люба Ігнацюк і Зофія Бусловіч. Апрача прапагандавай дзейнасці ў выглядзе насценгазетак, транспарантаў, выставак, якія ладзіць тут СКО, неабходна ўпамянуць яшчэ пра такія формы выхаваўчай працы, як інсцэніроўкі, вечарыны, міжкласныя спаборніцтвы па ашчаднасці. Вось добра зразуметы сэнс СКО!

Абароты Бельскага аддзела ПКО дасягаюць сумы амаль сто сарака мільёнаў злотых. Удзел вучнёўскай ашчаднасці не перавышае васьмісот тысяч. Але, як вядома, справа не толькі ў ліках. Мо нават перад усім не ў ліках! (ся)

## АЧЫСТКА НАСЕННЯ

Каб быў добры ўраджай, неабходна пасеяць адборнае, чыстае зерне. Гэтую справу ў 1968 годзе крыху занядбалі сельскагаспадарчыя гурткі і машынатрактарныя базы, Беластоцкага ваяводства. План ачысткі пасяўнога збожжа за 1968 год выканалі яны ледзь на 50%. Таму трэба пастарацца, каб не праваліцца ў наступных гадах, тым больш, што план на 1969/70 гады прадбачвае пабудову 149-ці пунктаў для ачысткі пасяўнога збожжа (вр)

## У Гарадку пра патрыятызм



**Удзельнікі канферэнцыі ў Гарадку.**

(Працяг са стар. 1)

школу, вёску з усім акружаючым. **А ў сувязі з гэтым мусіць палюбіць і сваю мову, якой карыстаюцца яго бацькі, суседзі, аднавяскоўцы.** Палюбіць мову можна толькі тады, калі гэтую любоў прышчэпіць яму настаўнік. **Даклад пацвердзіў вядомы ўжо тэзіс, што справа прышчэплівання любві да «матчынай» мовы сярод дзяцей — гэта асноўны абавязак настаўніка.** Адварочваючы гэтае сцвярджэнне, можна сказаць, што калі школа гэтага не спаўняе, занядбоўвае вельмі істотны фактар патрыятычнага выхавання.

Не хачу сказаць, што ў дакладзе было ўсё сказана. Гэта была б няпраўда. Але спадзяюся, што настаўнікі Беластоцкага павета, а таксама і іншых паветаў, не раз яшчэ вернуцца да гэтай праблематыкі. З аднаго боку, яна вельмі актуальная з прычын заданняў, якія паставіў V з'езд ПАРП, а з другога, яна вельмі глыбокая і даецца адчуць у кожнай школе. Заўсёды і кожны выхаваўца дзяцей павінен памятаць сказаныя кімсьці словы: «**Патрыятызму нельга аднесці толькі да ўзнёслых слоў». «Падставай патрыятызму з'яўляюцца пачуцці да айчыны». А айчынай гэтых малых дзяцей з'яўляецца іх школа, іх вёска, а потым можа быць горад, сталіца.**



**С. Копа развучвае песню**

З успамянутай праблематыкай была звязана таксама і дыскусія. Аб навучанні беларускай мовы гаварыў м. інш. настаўнік са школы ў Вейках **Я. Казёл.** Яго выступленне можна пераказаць наступна: Маладое пакаленне саромiцца беларускай мовы. Каб гэтую сарамлівасць адхіліць, стараецца ён у сваёй вёсцы арганізоўваць магчыма больш культурнай дзейнасці (мастацкія часткі на ёлках, акадэміях, вечарынах і т.п.) на беларускай мове. Паколькі няма гатовых інсцэнізацый, сам рыхтуе такія сцэнкі, падбіраючы тэму з жыцця сваёй вёскі. Гэта, з аднаго боку, захапляе сялян, якія вельмі любяць усё, што «па-іхняму» ставіцца на сцэне, а з другога боку, дзейнічае вельмі выхаваўча.

Было шмат іншых галасоў, але паколькі былі гэта справы, аб якіх «Ніва» пісала, не буду іх паўтараць. На заканчэнне хацеў бы падкрэсліць словы З. Галась — настаўніцы з Грыбоўшчыны, якая прасіла, «каб Таварыства арганізоўвала часцейшы кантакт з настаўнікамі, бо ў апошнім часе ён зусім парваўся». Настаўнікі канферэнцыі гэта пацвердзілі. Ці настаўнікі з іншых паветаў таксама думаюць?

**А. Карпюк**
**Фота аўтара**

**ДА 50-ГОДДЗЯ БССР** **(3)**




27 студзеня 1919 года ўрад Жылуновіча абвясціў, што Мінскі губернскі рэвалюцыйны камітэт ліквідуецца, а яго функцыі пераходзяць на паасобныя народныя камісарыяты.

Гэта пастанова была прынята тады, калі яшчэ не было вядома, што хутка адбудзецца аб'яднанне Літвы і Беларусі.

30 студзеня ў Мінску пачаў працу губернскі з'езд рабочых і салдацкіх дэпутатаў. На з'езд сабралася 296 дэлегатаў. З прывітальнай прамовай ад імя раённага камітэта партыі выступіў Адам Качароўскі-Славінскі. 31 студзеня з'езд прыняў пастанову аб ліквідацыі рэвалюцыйных камітэтаў, якія трэба ўсюды замяніць Саветамі рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Іменна гэтым Саветам трэба пільна перадаць уладу. З'езд прыняў шэраг пастаноў у справах абароны краіны, арганізацыі лакальных улад, інтэнсіўнейшай дзейнасці кааператываў, пераўтварэння ўсіх вялікіх маёнткаў у «фабрыкі хлеба» (г. зн., саўгасы), арганізацыя савецкага школьніцтва і г.д.

Выбары ў Саветы дэпутатаў працоўных не ўстабілізавалі арганізацыйных форм дзяржаўных улад. Праз некалькі тыдняў наступіў паварот да таго, што было ў снежні 1918 г. і студзені 1919 г.

На два дні перад утварэннем урада Літоўска-Беларускай Савецкай Рэспублікі А. Мяснікоў як старшыня ЦВК Саветаў Беларусі абвясціў дэкрэт, які зноў склікаў Мінскі губернскі рэвалюцыйны камітэт у наступным складзе: старшыня І. Савацьеў і 16 членаў. Матывіроўка гэтага кроку была такая: рэспубліканскія камісарыяты пераводзяцца ў Вільна, а ў сувязі з гэтым у Мінску павінна быць створана спецыяльная ўстанова для кіравання Мінскай губерняй.

На працягу ўсяго месяца студзеня і ў першай палове лютага ішла фракцыйная барацьба паміж групай Жылуновіча і групай Мяснікова. Аб балансе гэтай барацьбы сведчыць спецыфіка канстытуцыі ССРБ, зацверджанай 4 лютага 1919 г. У гэтай канстытуцыі няма раздзела, прысвечанага Савету Народных Камісараў. Функцыі ўрада Рэспублікі з шырокімі кампетэнцыямі выконваў Вялікі Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саветаў, у склад якога ўваходзілі народныя камісары.

2—3 лютага 1919 г. у Мінску ў будынку тэатра адбыўся І з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. У працы яго ўдзельнічала 230 дэлегатаў. Ганаровым госцем з'езда быў Старшыня Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Я. М. Свярдлоў, які выступіў з прывітальнай прамовай. Ён перадаў змест прынятага два дні назад дэкрэту Прэзідыума ЦВК Савецкай Расіі аб прызнанні незалежнасці ССР Беларусі.

З'езд Саветаў выбраў ЦВК ССРБ у складзе 50 чалавек, а таксама зацвердзіў дзяржаўны герб і сцяг новай рэспублікі. Старшынёй ЦВК стаў Аляксандр Мяснікоў.

Трохі часу трэба прысвяціць ацэнцы ваенных падзей у 1919—1920 гадах.

Да гэтага часу ў апрацоўках гэтыя справы разглядаліся аднабакова. Падкрэслім некаторыя істотныя акалічнасці, якія памогуць нам лепей высвятліць трагедыю беларускага народа ў тыя гады.

Польскае галоўнае камандаванне хаця і не мела падпісаных ваенна-палітычных дагавораў з «белай Расіяй», але «паход на Вільна» (красавік 1919 г.) і «паход на Мінск» (ліпень — жнівень 1919 г.) адбыліся тады, калі галоўныя сілы Чырвонай Арміі змагаліся на франтах супроць Калчака і Дзянікіна. Савецкае камандванне, занятае барацьбой на ўсходзе і поўдні, прызначала па Заходні фронт невялікія ўзброеныя сілы. Польшча ад студзеня 1919 г. атрымлівала шматбаковую, вялікую дапамогу ад дзяржаў Антанты і ЗША.

У палове красавіка 1919 г. пачалася транспарціроўка з Францыі ў Польшчу арміі генерала Галера, у якой налічвалася каля 70.000 салдат і афіцэраў. Гэта армія была вельмі добра забяспечана артылерыяй, аўтаматычнай зброяй і тэхнічным абсталяваннем. Пасля падпісання 28 чэрвеня Версальскага Дагавору Польшча ліквідавала ўсе франты апрача Усходняга (на беларускіх землях) і Валынскага. Дывізіі Галера былі кінуты на ўсход. Мінск быў заняты двума вялікапольскімі палкамі. Заходнія дзяржавы, якія былі асабліва пад уплывам прэм'ера Вялікабрытаніі Лойда Джорджа, фарсавалі палітыку націску на Польшчу, каб згадзілася на нявыгадныя граніцы з Германіяй і нармалізавала свае адносіны з гэтым агрэсіўным суседам, а давалі Другой Рэчыпаспалітай поўную свабоду ва ўсходняй палітыцы. Баланс гэтай барацьбы трэба разглядаць у роўніцы барацьбы Антанты і Польшчы з савецкімі рэспублікамі. У варшаўскай бітве змагаліся на польскім баку 23 дывізіі, 18 з якіх былі забяспечаны і поўнасцю ўзброены Францыяй. Трэба падкрэсліць мала вядомы факт, што ў 1918—1920 гадах Другая Рэчпаспаліта не мела ніводнай фабрыкі карабінаў і пат-



 




(Працяг са стар. 1)

нага саюза моладзі Заходняй Беларусі.

— Што ж, быў яшчэ я малады, не вельмі нават разумеў, што пагражае мне за такую дзейнасць. Таму, магчыма, дзейнічаў смела. Старэйшыя таварышы гаварылі мне, што мы змагаемся за ўладу працоўных, і я ім верыў.

Першы ўрок асцярожнасці прайшоў ён тады, калі паліцыя разагнала камсамольскі сход у лесе пад Тыслічамі. Сабралася там моладзь з Бобінкі, з Амяльянца, Свінёва, Падгор'я і з другіх навакольных вёсак. Разам каля 30 чалавек. Прыехаў дакладчык з Брэста. Яшчэ не паспеў ён выступіць, як ужо вартавыя ўзнялі трывогу, што паліцыя акружыла лес. Відавочна, у ячэйку закраўся правакатар. На шчасце, Мазуруку ўдалося паспяхова выратавацца.

— Ад гэтага часу, — сцвярджае ён, — я ўжо ў камсамольскіх сходах не ўдзельнічаў. У нас быў Емяльян Богунь. Ён пастаянна ездзіў на розныя сходы і прывозіў для нас весткі. Гэта стары, вопытны камуніст — яшчэ з царскіх часоў.

Былі аднак іншыя заданні.

— Прыпамінаю, — гаворыць Мазурук, — у 1926 або ў 1927 годзе было мне загадана пайсці ў вёску Залешаны. У гэтай вёсцы надзвычай актыўна дзейнічала ячэйка КПЗБ. Яе заснавальнікам і сакратаром быў Якуб Базылюк. Ён тады, здаецца, сядзеў у турме. Бо я зайшоў да Дэмянюка, прывітаўся, як было загадана, паролем і атрымаў цэлы мяшок партыйнай бібулы. Адразу ўсё гэта аднёс Андрэю Кухце, а яны раздалі па іншых вёсках.

І зноў на дарогах, на кірмашах, у вясковых хатах паявіліся лістоўкі. Такім чынам партыя выяўляла сваё існаванне і гатоўнасць да барацьбы за лепшы лёс працоўнага люду. Даводзіла гэта да шаленства паліцэйскіх. У 1932 годзе і Янку Мазуруку давялося трапіць у іх рукі.

— Здарылася гэта 1-га мая, — успамінае ён. — Неабходна было адзначыць свята працоўных. Емяльян Богунь яшчэ загадзя купіў у Гайнаўцы чырвонае палатно. Зрабілі з яго сцяг і рашылі вывесіць ноччу на крыжы, які стаіць за вёскай. Я быў наймалодшы і найменш падазроны ў паліцыі. Дык мне прыйшлося прыбіць сцяг да крыжа. Небяспечная была гэта работа. Калі б паліцыя злавіла мяне, дык шматгадовая пабыўка ў турме гатова. Мне ўдалося, але калі паліцыя прыехала на следства, дык солтыс, дарэчы, мой дзядзька, Рыгор Мазурук паказаў на мяне і на майго брата. Арыштавалі нас абодвух. Упіхалі шпількі за пазногці, ваду з мылам у нос пампавалі, рабро зламалі, пасады розныя абяцалі, але нічога не дабіліся. З Вярховіч, дзе памяшчаўся паліцэйскі пастарунак, адаслалі нас у Высокае Літоўскае — у дэфензіву, а адтуль — дамоў.

За паўгода адбыўся гэты суд. Дзіўны суд, без сведкаў, без ніякай цырымоніі. Проста суддзя зачытаў прыгавор і ўсё. З-за недахопу доказаў суд звальняў Івана Мазурука ад пракурорскіх закідаў і адначасова... адбіраў у яго ўсе ганаровыя і грамадзянскія правы.

— Год часу раз у тыдзень змушаны быў я хадзіць у Вярховічы на пастарунак, каб паказваць сваю прысутнасць, — гаворыць Мазурук. — А калі збіраўся ў іншую вёску або на кірмаш у Кляшчэлі, абавязкова паведамляў аб гэтым солтыса.

Пры гэтых умовах прыйшлося яму абмежаваць сваю рэвалюцыйную актыўнасць. Мазурук заняўся зборам складчын на фонд МОПР.

Аднак падпольную работу працягвалі іншыя. Першага мая 1937 года чырвоны сцяг залапатаў нават над будынкам, у якім памяшчаўся ў Вярховічах паліцэйскі пастарунак. А ўся вуліца была заслана лістоўкамі. Вось як было.

**Віктар Рудчык**



Сцэна з п'есы «Хто прыйшоў ноччу».

# „ХТО ПРЫЙШОЎ НОЧЧУ“

П'еса вядомага беларускага пісьменніка Івана Мележа «Хто прыйшоў ноччу» прыпамінае нямецкую акупацыю і партызанскі рух супраць захопнікаў.

Партызанаў, пераапранутых у нямецкія мундзіры, на якіх адзнакі высокіх вайсковых чыноў, прымае з усімі ганарамі камендант паліцыі і даказвае свае заслугі ў барацьбе з партызанамі. А над злоўленай і скатаванай партызанкай перад імі далей хоча здзеквацца.

Пасля аказваецца, што гэта партызаны. Яны ставяць пад сценку каменданта і вызваляюць партызанку.

П'есу гэту дасканала падрыхтавала моладзь з Рыбалаў пад мастацкім кіраўніцтвам загадчыка школы Сяргея Філіпюка. Ён і сам выконвае добра ролю каменданта. Усе дзеючыя асобы добра выконваюць свае ролі. Там няма слабых месц у ігры аматараў. Дасканалая ігра і пераапранутых партызан, партызанкі і вартавога. Увесь час глядач сядзіць у напружанні, перажывае разам з героямі п'есы.

На аглядзе ў Орлі, які арганізаваў Бельскі аддзел БГКТ, самадзейнікі з Рыбалаў атрымалі найвышэйшую ацэнку журы, якое было паклікана аддзелам культуры прэзідыума ПРН у Бельску.

Тэкст і фота **М.Хмялеўскі**



**Гледачы на аглядзе ў Орлі.**

ронаў. Уся зброя дастаўлялася з Захаду, галоўным чынам з Францыі. Польскі ўрад яшчэ на працягу больш дзесяці гадоў вымушаны быў сплачваць ваенныя даўгі.

Гаворым аб усім гэтым таму, што польска-савецкая вайна зусім не была вайной, выкліканай супярэчнасцямі нацыянальных інтарэсаў. Часткова гэта быў ваенны канфлікт, выкліканы барацьбой за грамадскі лад на літоўска-беларускіх і ўкраінскіх землях. Ад грамадскага ладу залежала форма дзяржаўнасці і нават больш: ад вынікаў гэтай вайны залежала грамадскае і нацыянальнае вызваленне беларусаў, літоўцаў, украінцаў. Іменна такі, а не іншы, баланс вайны дэтэрмінаваў нявырашаную справу — ці літоўскі, беларускі і ўкраінскі народы даб'юцца нацыянальнага аб'яднання. У дагэтуляшняй польскай літаратуры слабое адлюстраванне знайшоў тэзіс, які лічыцца бясспрэчным: баланс двухгадовай вайны (1919—1920) трэба разглядаць як баланс барацьбы Польшчы і Антанты з аднаго боку, і Расійскай СФСР, Літоўска-Беларускай ССР і Украінскай ССР з другога боку. Без дапамогі, прычым рашаючай усебаковай дапамогі Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі і ЗША кіраваная Пілсудскім Польшча не магла б весці вайну нават на працягу некалькіх месяцаў і была б вымушана перайсці на шлях мірнай, добрасуседскай палітыкі, да прыняцця шматразова паўтораных мірных прапаноў савецкага ўрада.

**Аляксей Дэруга**

# ДНІ ТЭХНІКІ І ПРАМЫСЛОВАСЦІ ◆ БЕЛАРУСІ ◆



**3 снежня ў Доме тэхнікі НОТ у Варшаве адбылося ўрачыстае адкрыццё «Дзён тэхнікі і прамысловасці Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», арганізаваных Таварыствам польска-савецкай дружбы і Варшаўскім аддзелам Галоўнай тэхнічнай арганізацыі (НОТ). На ўрачыстае адкрыццё прыбылі запрошаныя госці: старшыня Галоўнага праўлення ТППР маршал Сейма Чэслаў Выцэх, прэзэс ПАН праф. Януш Грашкоўскі, сакратар ЦРЗЗ Віктар Абалевіч, старшыня Прэзідыума ВВРН Юзэф Пінькоўскі, члены кіраўніцтва НОТ і навукова-тэхнічных аб'яднанняў.**

**У «Днях» прымае ўдзел дэлегацыя вучоных, інжынераў і тэхнікаў з Беларусі ў складзе 28 чалавек, якой кіруе намеснік старшыні Камісіі Планавання БССР Фёдар Іваноў.**

**Прыбыўшых на ўрачыстасць прывітаў старшыня ОВ НОТ праф. Тадэуш Пуфф. З дакладамі выступілі старшыня камісіі навукі і тэхнікі ГП ТППР віцэ-міністр Тадэуш Дрыжэк і кіраўнік савецкай дэлегацыі. Аб гаспадарчым развіцці БССР за перыяд 50-годдзя савецкай улады гаварыў начальнік аддзела інфармацыі Камісіі Планавання БССР В. Рамашкін.**

**У Доме тэхнікі адкрыта таксама выстаўка, якая паказвае дасягненні тэхнікі і прамысловасці за 50 год мяжуючай з Польшчай рэспублікі СССР, яе навукова-тэхнічныя выдавецтвы і вырабы народнага мастацкага рамясла.**

**На працягу 10 дзён савецкія вучоныя і тэхнікі зрабілі каля 50 дакладаў, правялі шэраг размоў і спатканняў з польскімі спецыялістамі, наведалі Плоцк, Старахавіцэ, Урсус. Былі таксама госцьмі ў цэнтрах тэхнічнага працэсу і на вытворчых прадпрыемствах Катавіц і Вроцлава.**

**На здымку: у Доме тэхнікі НОТ у Варшаве на адкрыцці выстаўкі злева направа: Фёдар Іваноў, Януш Грашкоўскі і Чэслаў Выцэх.**




## Рыбы і дзеці «маюць мову паэзіі»

### «МОВА ЗВЯРОЎ»

Савецкі кінафільм з 1967 года. Першая ўзнагарода за найлепшы папулярна-навуковы фільм на III Усесаюзным фестывалі ў Ленінградзе ў 1968 годзе. Каляровы.

Мурашкі. Якім спосабам гэтыя малыя істоты гавораць? І ці гавораць яны? Аказваецца, мова мурашак — гэта мова пахаў.

А пчолы? Ад 40 мільёнаў год лётаюць яны над зямлёй, ныраюць у кветкі. Хопіць, каб адна знайшла багатую здабычу, як хутка зляцяцца да яе сотні сяброўак. Якім цудам даведаліся?

У адным з доследаў прыняло ўдзел 10 тысяч панумараваных пчол. На кавалак сотаў мёду сядае адна і пачынае хуткі поўны фігур танец. Значыць, мова пчол — гэта танец.

Разам з камерай ідзем глыбей пад ваду. Іншы свет, іншая мова звяроў, якія тут жывуць. Ці ж рыбы маюць голас? Так, мова рыб — гэта гукі і колеры.

Таксама гукамі, па-свойму характэрнымі, гавораць малпы.

Канец фільма «Мова звяроў» гаворыць пра дэльфінаў. Залічваем іх да рыб, але дэльфіны, як людзі, дыхаюць паветрам, малых кормяць малаком, маюць чырвоную цёплую кроў. Яны прыяцелі людзей, ратуюць тапельцаў, адганяюць акул, адводзяць параходы ад мелі. Вельмі інтэлігентныя, а вага іх мозгу ў параўнанні з вагой цела падобна да таго, як у чалавека. Гавораць мовай ультрагукаў, нячутных для людскога вуха.

Ці пазнаем калі-небудзь мову звяроў, мы, людзі, нібы самыя мудрыя істоты ў свеце?

### «ЦУДОЎНАЯ ГАЛАВАЛОМКА»

Чэхаславацкі фільм пра дзяцей, але не толькі пра дзяцей.

Дарога мараў і фантазіі, за якой спатыкаемся з найбольш захапляючай рэчаіснасцю дзіцячых прыгод. Фільм расказвае пра хлопчыка Франту. Становіцца ён уласнікам чарадзейскага прадмета, які спаўняе ўсе жаданні хлопца. Што з гэтага выходзіць? Вядома становіцца адно: Кепска дзеецца, калі ў цудоўны свет дзіцячай фантазіі ўлазяць дарослыя са сваім цынічным рэалізмам.

### «ЗВЯРЫ»

Французскі фільм, рэалізаваны ў натуральным пленеры, на ўсіх канцах зямнога шару. Рэалізатары адшукалі апошнія месцы на зямлі, дзе звяры жывуць яшчэ на волі.

Фільм пачынаецца словамі вялікага французскага прыродазнаўцы Буфо: «Калі б не было на свеце звяроў, чалавек быў бы для самога сябе яшчэ больш незразумелым».

Фільм складаецца з 9-ці частак, якія расказваюць пра звяроў. Для прыкладу, II частка — падарожжа вакол свету ў пошуках вольных звяроў, часта архаічных, як, напрыклад, унікальная малпа-насач, нідзе больш не спатыканая, толькі на востраве Барнэа. VI частка расказвае аб найпрыгажэйшай з людскіх мар — мары пра палёт, вольны, лёгкі, у высокія прасторы, у рытм музыкі сусвету. VII частка — вясна, свята звяроў, мацярынская чуллівасць і бязраднасць малых звярыных істот.

Чалавек, ён жа таксама звер. Толькі які? Часам страшны, бяздушны, забіваючы, а часам... вось як у фільме: малая дзяўчынка, якая, гледзячы на старую панурую малпу, кажа: «Паглядзі, якія яна мае цудоўныя вочы!» (вл)

# ТАПТЫГІН

Арцель Таптыгіна займалася лесанарыхтоўкамі. Бабры з Барсукамі распрацоўвалі лес. Коні, Ішакі, Валы адвозілі яго на прыстань. Ліса была дзесятнікам, стары Ліс загадваў складам, Куніца з Вавёркаю вялі бухгалтэрыю, Заяц нёс абавязкі кур'ера.

Год, другі і ўсё ішло добра, а потым пацягнула Таптыгіна на прэмію.

— Што, мая арцель горш другіх? Трэба нешта прыдумаць.

— Вынайсці, — падказала Ліса.

— От бы добра было! — загарэўся Таптыгін. — А што вынайсці?

— Пастаўце Ішака на тыдзень у стайню, няхай падумае.

Ішак думаў тыдзень, другі.

— Ну?

— Вынайшаў: лішні час трацім — сучча абсякаем. Трэба цягаць дрэвы на прыстань з сукамі. Пакуль будзем цігнуць, сукі самі абломяцца.

— Геніяльна! — пахваліў Таптыгін.

Сталі цягаць дрэвы з сукамі. Развярнулі ўсю дарогу; ні прайсці, ні праехаць. Цяглавай сілы спатрэбілася ўдвая.

Засумаваў Таптыгін — не відно прэміі.

— Гэта ва ўсім Коні вінаваты. Спіцы ставіць у твае колы, — шэпча на вуха Ліса.

— Не можа быць! — не паверыў Таптыгін. — Пазваць сюды Гнедага.

Пазвалі Гнедага, а той і кажа:

— Глупства гэта, а не вынаходніцтва, дрэвы з сукамі вазіць.

Выгнаў Таптыгін Гнедага, а потым і ўсіх коней. Справа яшчэ пагоршылася.

— Што рабіць? — засоп Таптыгін.

— Каб на мяне, — параіла Ліса, — я праклала б дарогу наўпрастак праз балота.

— Геніяльна, — гаркнуў Таптыгін.

Усю зіму пракладалі дарогу, не было часу лес вазіць.

Не вытрымалі Валы і выступілі з крытыкай новага вынаходніцтва.

— Валы падрываюць ваш аўтарытэт, — сказала на вуха Таптыгіну Ліса.

— Звольніць Валоў!

Звольнілі.

Цяглавай сілы стала яшчэ менш, а план выконваць трэба. Што рабіць? Упрогся Таптыгін сам. А воз ні з месца.

— У хамут! — крычыць Таптыгін на Лісу і Зайца.

Скочыў Касы са страху ў хамут і нават плячом не ўпёрся, праскочыў. Тое ж і з Лісой.

Вярнуў іх Таптыгін і неяк усё ж упрог у хамут.

— А ну! — зароў на ўвесь лес Таптыгін. — Раз-два, узялі!

А тыя вобземлю і лапкі ўгору.

— Ах вы, падхалімы-дарадчыкі! — нарэшце паразумнеў Таптыгін. — Падбухторыць у вас хітрасці хапае, а як вазіць, дык і лапкі ўгору! Што я цяпер буду рабіць? Як мне аднаму ўсю арцель пацягнуць?

**Міхась Скрыпка**

# НІЎКА

— Здаецца, ён не спіць.
— Сплю, сплю.

### АБМЫЎ

Купіў Міхайла мотапед —
Адразу рушыў у буфет.
Абмыў усе яго часціны —
І толькі руль застаўся
ад машыны.

**Ю. Літвін**

### ПРОСТА

Аднойчы нейкая дама запытала ў Гейне, ці цяжка навучыцца размаўляць па-французску. Паэт сказаў:

— Гэта зусім проста, толькі замест слоў нямецкіх трэба ўжываць французскія.

### ПА ДАРОЗЕ Ў ТЭАТР

— Капялюш мой роўна сядзіць? — пытае жонка мужа па дарозе ў тэатр.

— Роўна, роўна.

— Шкада, тады нам давядзецца вярнуцца: ён павінен сядзець коса.

### У ДОКТАРА

Малады ўрач запаўняе картку на маладую пацыентку.

— Ваша імя?

— А ваша?

### МАЯ ЖОНКА

— Ты не бачыў маёй жонкі?
— А вунь не яна стаіць?
— Не, тая стаіць моўчкі.

### ВЫЦЯГНЕ

— Будзеш брыгадзірам, Ігнат?

— Не выцягну.

— А кавалём?

— Таксама не.

— Тады, можа, кладаўшчыком?

— Во-во, тут выцягну!

### ПЕРАБОЛЬШЫЛІ...

«Раённы суддзя абвінаваціў мяне ў тым, што я тры разы ўдарыў палкай суседа Міхася. Аднак у трэці раз я па ім не папаў, бо ён уцёк...

(З касацыйнай скаргі)

— А я чэмпіён па бегу!
— А я па кіданню!

### ХТО ПЕРАМОГ?

— Цікава, хто з вас перамог ва ўчарашнім бойцы? — запыталі ў аднаго схільнага да хвальбы мужчыны.

— Вядома, я! — з гонарам адказаў той. — Разважце самі: я яго разоў з дзесяць зваліў мяшком па галаве, а ён мяне здолеў толькі раз выцяць торбаю па спіне.

— А мех твой не пусты ж быў?

— Паўнюткі, сенам набіты.

— А яго торба з чым была?

— Ды ў яго адна дробязь ляжала: дзве цагліны і бязмен.

### ПАЛУЧКА ВІНАВАТА

У рабочым клубе вісіць аб'ява: «Сёння адбудзецца лекцыя «Аб шкодзе алкаголю».

Чырвананосы дзядзька, праходзячы міма, з жалем заўважыў:

— Шкада, што няма часу. Паслухаў бы, каб не палучка сёння.

### ЖАРТ

Сябры рашылі пажартаваць з таварыша, які паехаў да дзяўчыны ў іншы горад. Яны паслалі наўздагон яму тэлеграму:

«Віншуем, жонка нарадзіла трайню».

«Дзякую, не чакаў. Уладкуйце іх хутчэй у яслі», — адказаў тэлеграмаю халасцяк.

### РАБОТАДАЎЦА

— Прафесія? — пытае суддзя падсуднага.

— Работадаўца, — адказвае той.

— Каму вы даеце работу?

— Вам, грамадзянін суддзя.

### У ПРАДПРЫЕМСТВЕ

Дырэктар прадпрыемства выйшаў з кабінета і ўбачыў, што адзін з супрацоўнікаў цалуе яго сакратарку.

— І за гэта вам плоціць прадпрыемства? — раззлаваўся дырэктар.

— Не, таварыш дырэктар, гэта я бясплатна, — адказаў супрацоўнік.

### ЯК?

— Якая дрэнная жанчына — ніяк не магу яе застаць дома.

— А чаму ты тады не развядзешся?

— Як развядзешся? Дык гэта ж не мая жонка.

З армянскага

### ПУЛУ-ПУГІ І ЗЛАДЗЕІ

Аднойчы ў дом Пулу-Пугі залезлі зладзеі. Раптам адзін з іх заўважыў Пугі.

— Эй, Пугі, чаго ты схаваўся? — спытаў ён.

— Мне сорамна перад вамі, браткі, што ў маім доме нічога не знайшлося нават для зладзеяў.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**По просьбе І. Пучко і І. Харкевіч з вёскі Янова, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню.**

## МЯЦЕЛІЦА

Словы А. Дзеружынскага
Музыка М. Шуміліна

**Ой, мяцеліца,**
**Ой, мяцеліца**
**Ўсе дарожкі замяла.**
**Як мне, дзяўчыне,**
**Як мне, дзяўчыне,**
**Ехаць з любым да сяла?**

**Я сняжыначкі,**
**Я сняжыначкі**
**Сваім сэрцам растаплю.**
**Ведай, міленькі,**
**Ведай, міленькі,**
**Цябе моцна я люблю.**

**Ой, мяцеліца,**
**Ой, мяцеліца**
**Пагуляла і пайшла...**
**А вяселейка,**
**А вяселейка**
**Едзе з песняй да сяла.**

# КУРЁЗЫ

### Сукенка — інфарматар

Англійская маладзёжная мода ўсё больш шакіруе экстравагацкімі вынаходніцтвамі. Вось адно з іх: новы варыянт «сукенкі-інфарматара». У супрацьлегласць да яе папярэдніц справа зусім не ў нумары прыватнага тэлефона (бо і такія сукенкі ў Лондане ўжо насілі). Гэтым разам лічбы маюць дачыненне да трох акружнасцей уладальніцы сукенкі. Як вядома, у Вялікабрытаніі дзесятная сістэма яшчэ не ўведзена, лічбы азначаюць тады не сантыметры, а цалі. Пералічыўшы на сантыметры, атрымліваем: 89-56-89.

### Як сябе ўвекавечыць

У сталіцы Камбоджы — горадзе Пном-Пень кожны грамадзянін можа атрымаць права назваць вуліцу сваім імем. Для гэтага трэба толькі выбрукаваць яе за свой кошт.

## Сміж нами

Не хавай сваіх недахопаў. А раптам у тваіх недахопах нехта ўбачыць тваю сапраўдную вартасць?

**С. Мех**